ПАГОНЯ
Чацвер
5 кастрычніка 2000 г.
№ 37 (484)
Кошт 70 рублёў

## Мілінкевіч рэгулюе крызісы

**З 9 па 22 верасня Еўрапейскі Цэнтр па пытаннях бяспекі імя Джорджа Маршала правёў у г.Гарміш-Партэнкірхане семінар «Рэгуляванне крызісаў: планаванне на выпадак нацыянальных і міжнародных надзвычайных сітуацыяў».**

Удзел у семінары ўзялі адказныя асобы міністэрстваў знешніх адносінаў і абароны, лідары недзяржаўных арганізацыяў з 35-ці краінаў Еўрасаюза, ЗША і Канады, з постсавецкіх рэспублікаў і краінаў былога сацыялістычнага лагера. Беларусь прадстаўляў старшыня Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша», старшыня Беларускай Асацыяцыі Рэсурсавых Цэнтраў Аляксандр Мілінкевіч. У дыскусіях семінара ўдзельнічалі Генеральны сакратар NATO лорд Робэртсон Порт-Эленскі, міністр па надзвычайных сітуацыях Расейскай Федэрацыі, лідар партыі «Адзінства» Сяргей Шойгу, старшыня Камісіі па міжнародных гуманітарных пытаннях ААН, наследны прынц Іарданіі Элых Хасан Бін Талал ды іншыя вядомыя асобы.

## Міліцыянты змагаюцца з іншадумцамі

**2 кастрычніка ў гадзіну ночы на асабістай машыне быў затрыманы адзін зь лідараў гарадзенскага БНФ Сяржук Паўленка. У машыне зрабілі вобыск і знайшлі 16000 асобнікаў улётак, прысьвечаных байкатаванню выбараў.**

Спадара Паўленку завезьлі ў Кастрычніцкі РАУС Горадні. Там канфіскавалі ўвесь наклад улётак і склалі пратакол. Затрыманага адпусьцілі, але ўжо ў шэсьць гадзін раніцы вырашылі «наведаць» дома. Міліцыянты зьявіліся з позвай у Кастрычніцкі РАУС.

Сяржук Паўленка зьвярнуўся ў праваабарончы цэнтар «Вясна» і толькі пасьля кансультацыі пайшоў да намесьніка начальніка Кастрычніцкага РАУС спадара Сідара. У затрыманага патрабавалі інфармацыю: адкуль улёткі і каму яны прызначаліся. Сяржук Паўленка адмовіўся даваць паказаньні без прадстаўнікоў праваабарончага цэнтру і адваката; ніякіх папераў не падпісваў.

Напярэдадні, першага кастрычніка, гарадзенскімі міліцыянтамі былі затрыманыя два маладафронтаўцы таксама за расклейванне налепак. Але пасьля правядзення «выхаваўчай работы» іх адпусьцілі.

Ул. інф.

## Мэр Ліды ня вынес «нахабства»

26 верасня ў Лідзе ў клубе завода «Оптык» падчас арганізаванай уладамі сустрэчы выбаршчыкаў з кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў былі затрыманыя некалькі чалавек за распаўсюджванне агітацыйных матэрыялаў, прысьвечаных байкоту выбараў.

Некаторая анэкдатычнасьць сытуацыі заключаецца ў тым, што адзін з нумароў апазыцыйнай газэты патрапіў у рукі да кіраўніка гарадзкога выканкаму, які прысутнічаў на сходзе. Мэр нахабства ня вынес і загадаў затрымаць усіх апазыцыянэраў. Было сканфіскавана 60 асобнікаў газэты «Голас Ліды», а таксама 25 асобнікаў спецвыпуску газэты «Рабочы». Групу маладых людзей даставілі ў пастарунак, дзе быў учынены допыт, на аднаго з затрыманых, кіраўніка інфармацыйнага цэнтру «Гэнэрацыя» Артура Ганько, быў складзены адміністрацыйны пратакол.

На наступны дзень, пасьля судовага разьбіральніцтва, Ганько пакаралі штрафам у памеры 3 мінімальных заробкаў.

БАРЦ




5, 6 кастрычніка - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, вецер паўночна-ўсходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра 5 і 6 кастрычніка - уначы +3...+8, удзень +15...+20.




Бел-чырвона-белы сцяг, які ўзнялі на мітынгу ў Менску 1 кастрычніка 2000 года

(Больш падрабязна пра гэтую падзею - на стар. 2)

# Гарадзенскія ўлады супраць справядлівых выбараў

**Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў правядзенне 8 кастрычніка на Савецкай плошчы агульнагарадскога мітынга «За справядлівыя і дэмакратычныя выбары». Ініцыятарамі яго правядзення выступілі 22 жыхары горада Гродна, кіраўнікі дэмакратычных грамадскіх і палітычных арганізацыяў горада, аб'яднаных у «Гродзенскую ініцыятыву».**

Забарону правядзення мітынга гарвыканкам матывуе тым, што адзін з заяўнікаў, гарадзенскі лідар БНФ Сяргей Мальчык «...не аднойчы дапускаў парушэнні дзеючага заканадаўства пры правядзенні аналагічных мерапрыемстваў». Такім чынам, гарадскія ўлады спрабуюць абвінавачваць арганізатараў у яшчэ не здзейсненых правапарушэннях. Гэтае рашэнне гарвыканкама парушае не толькі ўсе юрыдычныя каноны, але і маральныя нормы.

Нагадаем, што месяц таму гарадзенскія ўлады адмовіліся нават разглядаць заяву Гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне» на правядзенне 8-га верасня канцэрта бардаўскай песні ў гонар Дня Беларускай Вайсковай Славы.

Тым не менш, улёткі і налепкі, расклееныя па горадзе, заклікаюць гарадзенцаў усё-ткі прыйсці 8 кастрычніка а 12-й гадзіне на вуліцу Савецкую.

Як стала вядома на момант выхаду газеты, улічваючы настрой гарадзенцаў выйсці на вуліцы, гарадскія ўлады пайшлі на перамовы з ініцыятарамі правядзення мітынга аб змене рашэння гарвыканкама.

8 кастрычніка масавыя вулічныя акцыі пройдуць у дзесятках гарадоў Беларусі. На іх аб'яднаная дэмакратычная апазіцыя публічна выкажа свае адносіны да лукашэнкаўскіх выбараў.

Ул.інф.

# У Гродне з'явілася новая спецслужба

### Яна ўжывае метады запалохвання і шантажу. Гэта - гарадская тэлефонная сетка

Днямі атрымаў па пошце картку, якая давяла мяне да слёз. Даслала яе гарадзенская тэлефонная сетка з грыфам «тэрмінова». Мне паведамілі: «Вам патрэбна зверка для заключэння дамовы. У выпадку нез'яўлення ў 7-дзённы тэрмін тэлефон будзе адключаны».Напрыканцы ліста было напісана: «З сабой мець пашпарт з прапіскай».

Я «прыпух». Бо ніякай патрэбы ў нейкай зверцы з тэлефоннай сеткаю ніколі не адчуваў. Гэта значыць, што ГТС вырашыла выдаць свае патрэбы за мае. «Але ў чым патрэба сеткі?» - падумаў я, і набраў пазначаны ў падмётным лістку тэлефон 44-15-56. Тое, што мне давялося пачуць, я распаўсюджваць у сямі тысячах паасобнікаў не буду. Самае лагоднае было: «Што вы хочаце? Усё роўна нікуды не падзенецеся, мужчына».

Я спрабаваў даведацца, на якой падставе ГТС патрабуе ад мяне пашпарт ды яшчэ з прапіскай, я пытаўся ў іх, хто даў ім паўнамоцтвы МУС, КГБ, пракуратуры і суда. Тэлефон 44-15-56 раіў мне «нікуды не дзявацца». Нарэшце, пасля пятага званка я дамогся нумару тэлефона іхняга начальніка Уладзіміра Мікалаевіча (тэлефон 47-14-05). Але ні ён, ні яго намеснік, ні служба, якая накіравала «рэкецірскія пасланні», трубку не падымалі. Урэшце рэшт я звязаўся з намесніцай старшыні гарвыканкама Валянцінай Лаўцаль. Выявілася, што ГТС пераходзіць на прамую форму заключэння дамоваў. Разам з тым у выканкаме пагадзіліся, што пасланне ГТС сваім абанентам вытрымана ў выключна хамскім стылі, і абяцалі зрабіць спадару Нікалаеўскаму вымову.

Будзем спадзявацца, надалей ГТС будзе прытрымлівацца ў дачыненнях з абанентамі больш высокага стылю.

Сяргей Самасей

## Вас у госці запросіць «Таццяна»

**7-8 кастрычніка Гарадзенскі абласны драматычны тэатр адкрывае свой чарговы тэатральны сезон.**

Гледачам прапануецца прэм'ерны спектакль «Таццяна» паводле п'есы Т.Пушкінай «Пакуль яна памірала» ў пастаноўцы вядомага беларускага рэжысёра Рыда Талілава. Да нядаўніх поспехаў гэтага рэжысёра трэба залічыць спектакль «Стомлены д'ябал» (аднайменная п'еса С.Кавалёва друкавалася ў «Калосьсі» N7), леташняя пастаноўка якога ў менскім тэатры нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна» выклікала сапраўдны фурор сярод тэатралаў.

У новым сезоне гарадзенскія акторы абяцаюць парадаваць сваіх прыхільнікаў спектаклем А.Глотава «Мужчына і жанчыны» паводле п'есы М.Задорнава «Апошняя спроба», а таксама казкамі для дзяцей - класічнымі «Шчаўкунчыкам» і «Папялушкай».

Людвік Сарока

## Татары маюць сваё выданьне

**У Слоніме распачалося выданьне бюлетэню тамтэйшага рэлігійнага аб'яднаньня мусульманаў.**

Першы нумар выданьня, якое мае назву «Нур» («Сьвет»), трапіў у рукі чытачоў на пачатку гэтага тыдня. Рэдактарам бюлетэню, аддрукаванага пры дапамозе грамадзкага аб'яднаньня «Воля да разьвіцьця», зьявіўся спадар Сулейман Байрашэўскі.

Выданьне «Нура» супала з пачаткам першага з трох найбольш сьвятых месяцаў для мусульманаў - Раджаба (з 29 верасьня па 28 кастрычніка). Як паведамляецца на першай старонцы бюлетэню, узнагарода за дабро і пакараньне за грахі ў гэтым месяцы павялічваюцца ў 70 разоў.

Заснавальнікі выданьня палічылі за патрэбнае зьвярнуць увагу чытачоў на тое, што «ў газэце ёсьць пераклады сьвятых пісаньняў, трапляньне якіх у нячыстыя месцы па Шарыяту не дазваляецца». Так што можна не мець сумневу ў тым, што «Нур» будзе адным з найбольш шануемых на Гарадзеншчыне выданьняў.

Вітаўт Руднік

## Хоць і прайгралі, але характар паказалі

**У Наваполацку завяршыўся міжнародны турнір па матаболу, у якім бралі ўдзел і спарцмены гарадзенскага «Азота». На вялікі жаль, усе тры сустрэчы яны прайгралі. Наваполацкаму «Аўтамабілісту-Полтэкс» - 1:3, літоўскаму «Бартува» /Скудас/ - 1:2 і менскаму клубу «Зара» - 3:5.**

Паводле словаў трэнера нашай каманды Яўгена Кашкаі, ва ўсіх сустрэчах гарадзенцы гулялі на роўных з супернікамі. А дамагчыся больш прыстойнага турнірнага выніку не здолелі таму, што выступалі на старых, даўно адслужыўшых сваё матацыклах. Тым не менш, за спартовы характар мотабалістаў «Азота» адзначылі «Прызам балельшчыкаў».

Дарэчы, лепшы нападнік гарадзенскай каманды Анатоль Багданец адразу пасля гэтых спаборніцтваў выехаў на міжнародны турнір у Маскве, дзе ў складзе зборнай каманды Беларусі заняў чацвёртае месца.

П.Разумовіч

## Гісторыя Беларусі ў канвэртах

**Лявон Карповіч зь мястэчка Лунна, што ў Мастоўскім раёне Гарадзенскай вобласьці, мае намер выдаць у хуткім часе сэрыю канвэртаў па гісторыі Беларусі. На першай палове канвэрта будзе зьмяшчацца партрэт альбо малюнак таго ці іншага гістарычнага дзеяча, а на адваротным баку - апісаньне яго дзейнасьці.**

# Гарадзенскія кавалі робяць з металу песню

**У мінулую пятніцу ў Музеі гісторыі Гарадніцы (Домік рамёстваў) адкрылася выстава каваных вырабаў творчай майстэрні Юрыя Круша.**

Тыя творы, што сабраныя ў невялічкай зале музея - проста цуд з металу. Разам з традыцыйнымі каванымі вырабамі з металу - падсвечнікамі, кратамі і прыладамі для каміна - захапляюць высокамастацкія работы «Ружа», «Кветнік», крыжы. У лепшых сваіх творах майстар дасягае незвычайнай лёгкасці і дасканаласці формы ў метале. Аднак, што гаварыць пра кветкі - самая звыклая рэч, ручкі для дзвярэй і попельніцы чароўным чынам ператвараюцца ў кузні Юрыя Круша ў мастацкія творы.

- Да металу трэба ставіцца пачалавечы, - гаворыць Юрый, - адчуваць метал, як любы іншы матэрыял. Сагнуць ці адрэзаць можна любы кавалак жалеза, але выцягнуць і зрабіць з яго песню, ігру, каб метал сам за сябе гаварыў сваім выглядам, формаю, сваім языком - вось што важна.



**Жырандоля «Карона Вітаўта»**
**Аўтар - Юрый Круш**

Прырода падказвае формы мадэрна - вытанчанасць, пераход тонкай лініі ў шырокую і наадварот. Як і ў прыродзе, у нас - усе рэчы ў адзіным экзэмпляры, бо немагчыма дакладна паўтарыць ні адну дэталь. Мы працуем па сваёй сістэме - эскіз не перадасць таго, што атрымаецца на самой справе. Я раблю творы, а не выгінаю метал па лініях.

А ў творчай майстэрні - кузні адбываецца нешта сапраўды блізкае да чараўніцтва - шугае агонь, звініць і ляскае метал, мяняе свой колер з чорнага на белы і чырвоны. Тут нават звычайную каву гатуюць у гарне па сакрэтнаму рэцэпту. Так, цяпер становіцца зразумелым, чаму ў народзе кавалям прыпісваліся магічныя здольнасці - у іх моцы падкову шчасця выліць ці пярсцёнак для каханага скаваць...

- Наша кузня - адначасова і музей, - далучаецца да размовы Алесь Вераб'ёў, вучань Юрыя. - Тут у нас ёсць старыя кавальскія мяхі, старажытная свідравальная ўстаноўка, кавадла, струманты, нават кайданы дзекабрыста.

Я з задавальненнем вучыў бы людзей культуры кавальства, - прыцягвае Юрый Круш. - Была ў нас ідэя замест пункту прыёму шклатары па вуліцы Кірава адкрыць дзеючую кузню-кавярню. Людзі прыходзілі б адпачыць, пад'есці - а побач стаяла б кавадла, невялічкі горан, я б паказваў, як каваць цвік ці што складаней. Каб успрымаць гэта ўсё, неабходна адпаведная атмасфера, энергетыка - прадметы даўніны, мэбля каваная, аздабленне. Аднак з гэтай задумай нічога не атрымалася.

***- Юрый, амаль 15 гадоў ты працаваў у рэстаўрацыйных майстэрнях Вільні. Віленскі Стары Горад упрыгожаны тваімі каванымі творамі. У Гродне ж ты яшчэ толькі тры гады. Стары горад пакуль што без аніводнай шыльды ці ліхтара з вашай майстэрні. Не шкадуеш, што вярнуўся?***

- Беларусь - няворанае поле для работы, для бізнесу. Можна, канешне, плакацца, што цэны растуць, што дом развальваецца, што наверсе не тыя. Гляньце навокал - тое, што вакол нас, тое і ўнутры. Тая ж непрыбранасць, бязладдзе, лянота. Трэба рабіць... Вы кажаце - у Літве больш перспектываў і шанцаў зарабіць. Не было ў мяне такой мэты ў жыцці - зарабіць паболей грошай. Да 1983 года я працаваў на заводзе вучнем каваля, меў зарплату на той час - 500-600 рублёў, гэта немалыя грошы былі. І кінуў, пайшоў у рэстаўрацыйныя майстэрні. Ды нас, кавалёў, ніколі не маглі скруціць, вымусіць рабіць тое, што трэба і цікава некаму, а не нам. Якія рысы патрэбныя чалавеку, каб стаць кавалём? Ды каб чалавек добры быў. І жаданне канешне. А па натуры я лайдак.

*- ??!*

- Лайдак, лайдак. І выключна з-за свайго лайдацтва я і выбраў гэтую прафесію. Праўда, даведаўся, што яна гультайская, гадоў праз 10, як пачаў.

***- За тры гады, што ты ў Гродне, ваша кузня паспела пазаймаць першыя месцы на Славянскім базары, на выставах у Піцеры. Цяпер адразу дзве выставы ў гарадскіх залах. Як усё паспяваеце?***

- Калі запрашаюць - не адмаўляемся. Едзем самі, за свой кошт, затое і адчуваеш сябе хоць у Віцебску, хоць у Маскве, самастойна і ўпэўнена.

Проста душа радуецца, калі бачыш недзе сваю работу.

**Гутарку вяла**
**Алена Сіневіч**

# Выгулялі, як сабак

**Трэці Марш Свабоды, зарганізаваны аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыяй, скончыўся традыцыйна - на пляцоўцы для выгулу сабак. Насуперак абяцаньням арганізатараў акцыі, якія запэўнівалі, што «Бангалораў больш ня будзе».**



**На здымку: Менск, першае кастрычніка. Перад пачаткам апазіцыйнага шэсця**

Меркавалася, што ўдзел у мерапрыемстве прыме каля 100 тысячаў чалавек, сабралося ж толькі каля 15 тысячаў.

«Хто яшчэ ня ўзяў транспарантаў, падыходзьце і бярыце!» - упрошвалі зь мегафону ля Акадэміі навук. Моладзь ляніва пацягвала піўко і кляла «палітыкаўімпатэнтаў, у якіх зноў у апошні момант абламалася ісьці на плошчу Незалежнасьці».

Шэцьце рушыла па праезнай частцы прашпэкту Скарыны і вуліцы Сурганава. Наперадзе калёны несьлі сьцягі ўсходнеэўрапэйскіх краінаў. Недасьведчаныя, убачыўшы югаслаўскі сінебела-чырвоны трыкалёр, абураліся: «Навошта тут маскальскі сьцяг?».

Маладафронтаўцы насілі «выбіральню» - драўляную скрыню, у якую можна было кідаць бюлетэні з туалетнай паперы. Пара дзесяткаў хлопчыкаў з Беларускай партыі свабоды брава маршыравалі пад грукат піянэрскіх бубнаў. Нейкі пузаты міліцыянт ганяўся за падлеткам, які апрануў на твар цёмны бандан: «Я табе надзену! Ты мне морду сваю не хавай, бандыт!».

Прадавалі газэты «Навінкі», «Голас краю» і «Радавая Беларусь». Беларускія геі распаўсюджвалі сваё выданьне бясплатна. Жартавалі, што менскія ўлады забаранілі «блакітным» правесьці свой парад, дык яны далучыліся да беларускай апазыцыі.

На плошчы, дзе кожны дзень свае патрэбы спраўляюць нашыя сябры малодшыя, лідары беларускіх партыяў правялі кароткі інструктаж наконт байкоту выбараў. Мітынгаваць далей не было сэнсу - людзі разыходзіліся надзвычай хутка.

Без эксцэсаў не абыйшлося: былі затрыманыя тры чалавекі, а таксама коні сябраў Рыцарскага клюбу, якія таксама хацелі прыняць удзел у шэсьці.

**Юлія Дарашкевіч**

**У панядзелак, 2 кастрычніка, у памяшканьні Ўправы БНФ адбылася прэсавая канфэрэнцыя, прысьвечаная вынікам Маршу Свабоды-3, праведзенага ў рамках кампаніі «Байкот-2000». Канфэрэнцыю праводзілі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, старшыня АГП Анатоль Лябедзька, Віктар Івашкевіч - старшыня кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў, Аляксей Кароль - намесьнік старшыні БСДП(НГ) і Алесь Бяляцкі - кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна».**

**Арганізатары далі станоўчую ацэнку ўчарашняму Маршу Свабоды. Марш прайшоў мірна, нягледзячы на тое, што некалькі разоў міліцыя спрабавала абвастрыць сытуацыю. Акцыя вызначылася сваёй відовішчнасьцю; як зазначыў В.Вячорка, у гэтым пляне «Марш Свабоды-3 «быў найлепшы мітынг. Было заўважана, што далучыліся новыя людзі, гэта гаворыць пра павелічэньне цікавасьці да акцыяў апазыцыі. Спадар Віктар Івашкевіч заўважыў, што «Марш Свабоды» у нейкім сэнсе - пачатак перадвыбарнай агітацыі перад прэзыдэнцкімі выбарамі.**

**Задачай «Маршу Свабоды» арганізатары вызначылі пераадольваньне страху ў грамадзтве. «Марш Свабоды-3» разглядаецца як перадача эстафэты рэгіёнам Беларусі. Таму 8 кастрычніка плянуецца правядзеньне сінхронна ў 23 беларускіх гарадох сваіх «Маршаў Свабоды». Вінцук Вячорка адзначыў, што трэба браць урок у Сэрбскай апазыцыі, якая працуе ў рэгіёнах. Як сказў Анатоль Лябедзька, «калі не падымем рэгіёны, складана разьлічваць на перамогу».**

**Галоўнымі лёзунгамі «Маршу Свабоды» былі заклікі да байкатаваньня выбараў. Таму праваабарончы цэнтар «Вясна» падаў інфармацыю пра затрыманьні, якія адбыліся да 28 верасьня, і якія былі зьвязаныя з акцыяй «Байкот-2000». 16 затрыманых, якія былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці, 32 грамадзяніна, на якіх складзеныя пратаколы адміністрацыйнага затрыманьня й чакаецца суд, 17 грамадзянаў затрымалі, але не складалі пратаколу аміністрацыйнага затрыманьня.**

**Перад пачаткам «Маршу Свабоды-3» супрацоўнікі ДАІ затрымалі машыны з гукаўзмацняльнай апаратурай, хаця праз 15-20 хвілінаў машыны вымушаныя былі адпусьціць.**

**Аб'яднаная апазыцыя мяркуе правесьці чарговае масавае шэсьце ў Менску 14 кастычніка. Адпаведная заяўка пададзеная ў гарвыканкам. Шэсьце адбудзецца ў 15 гадзінаў, яно мусіць пачацца ля Акадэміі Навук і скончыцца на пляцы Незалежнасьці.**

## Палякі ўводзяць візы

Паводле інфармацыі Міністэрства Замежных справаў Беларусі, Рэспубліка Польшча мае намер усталяваць з нашай краінай візавы рэжым. Плянуецца, што падобныя меры будуць прынятыя ў сярэдзіне наступнага году. Польскі бок матывуе падобныя новаўвядзеньні не імкненьнем усталяваць больш жорсткія стасункі з усходнім суседам, але як сродак барацьбы зь нелегальнай міграцыяй. Апроч гэтага, польскі ўрад вымушаны прадпрымаць падобныя крокі ў сувязі з больш шчыльнай інтэграцыяй у эўрапейскія структуры.

**БАРЦ**

## «Рокавая Беларусь» прызямлілася ў Варшаве

**Увечары 1 кастрычніка ля муроў варшаўскага Барбакану адбыўся супольны канцэрт беларускіх і польскіх рок-гуртоў.**

Акцыя была завяршэннем турнэ беларускіх рок-гуртоў «Уліс», «Новае неба» і «Zet» па Польшчы. Гранды айчыннай рок-эстрады далі восем канцэртаў у Аўгустове, Гданьску, Вроцлаве, Шчэціне, Новым Сончы, Кракаве, Устшыне. На заключным канцэрце ў Варшаве да іх далучыліся польскія каманды «Proletariat» і «Jem». Заўзятары віталі музыкаў бел-чырвона-белымі сцягамі ды скандавалі «Жыве Беларусь!»

Перад канцэртам адбыўся адмысловы семінар з удзелам артыстаў і палітыкаў «Дэмакратыя ў Беларусі - выклік Будучыні». Арганізавала турнэ і акцыю ў Варшаве польскае Кансерватыўна-народнае аб'яднанне (SKL), якое яшчэ два гады таму падпісала з БНФ пагадненне аб супрацоўніцтве.

**Адам Налібоцкі**

## Іудзейскае гета праз мастацтва

**Яшчэ два тыдні будзе доўжыцца ў галерэі «У Майстра» выстава мастака з польскага горада Каліша Зыгмунта Баранэка.**

Карціны, прадстаўленыя ў выставачнай зале, уздымаюць габрэйскую тэматыку. Экспазіцыя традыцыйна дэманструецца штогод у Варшаве ў Дзень паўстання варшаўскага гета. Як гаворыць сам аўтар, звяртанне да тэмы габрэйства выклікана хутчэй нейкімі падсвядомымі матывамі, бо каранёў сваіх там ён не знаходзіць. Трагічныя матывы перайначаныя ў мастацкіх сродках - змрочная палітра, безнадзейнасць, пакутны вобраз Хрыста.

Выстава Зыгмунта Баранэка створаная ў межах мастацкіх абменаў паміж Гарадзенскім дзяржаўным універсітэтам і Педагагічна-мастацкім інстытутам горада Каліша.

**Алена Сіневіч**

# Польскія СМІ: ад палітыкі да камерцыі

**На мінулым тыдні мне, журналісту ПАГОНІ, давялося некалькі дзён разам з групай беларускіх і ўкраінскіх рэпарцёраў правесці ў Варшаве, пазнаёміцца з дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі Польшчы. Звычайна паведамленні журналістаў пра свае ўнутраныя праблемы не вельмі займаюць чытачоў. Тым не менш, аўтар наважыўся падзяліцца ўражаннямі ад свайго побыту ў Варшаве, бо за фактамі і дробнымі дэталямі праглядаецца некалькі выразных тэндэнцыяў.**

Гэтыя тэндэнцыі тычацца як польскіх СМІ, так і беларускіх. Акрамя таго, польскі досвед выяўляе заканамернасці будучага руху не толькі беларускіх мас-медыя, але і беларускага інтэлектуальнага развіцця ў цэлым.

Канчаткова рашэнне пытання - пісаць ці не пісаць - выспела ў апошні дзень. Мой сябрук сустрэў у цэнтры Варшавы на вуліцы Хмельнай свайго знаёмага з Менска, музыканта і навукоўца, а я на цэнтральным вакзале спаткаў вучонага-філолага з Гродна, які вяртаўся з канферэнцыі славістаў у Катавіце. Стала зразумелым, што Польшча сёння ўяўляе сабою для беларусаў не толькі «акно ў Еўропу», але і самастойны цэнтр інтэлектуальнага прыцягнення.

Пра гэта сведчылі і намеры саміх палякаў. Такія вядомыя прадстаўнікі польскай эліты, як Стэфан Браткоўскі, Ігнацы Руткевіч, Анджэй Краеўскі расказвалі нам пра тое, што ў свой час польскай дэмакратыі аказвалі велізарную дапамогу на Захадзе і ў Амерыцы. Надышоў час вяртаць «пазыкі» - казалі яны. Палякі дэманструюць жаданне стаць актыўнымі носьбітамі культурніцкіх еўрапейскіх традыцыяў.

Ускосна гэтую выснову пацвярджаў склад удзельнікаў нашай групы. У яе ўваходзілі, прыкладна пароўну, беларусы і ўкраінцы. Агульнай думкай абодвух бакоў была наступная: «мы амаль нічога не ведалі адно пра другога». Украінцы жартавалі, што нарэшце пабачылі беларусаў, якія яшчэ і размаўляюць па-беларуску. Больш таго, многія беларусы мелі магчымасць пазнаёміцца між сабою толькі тут, у Варшаве.

Такім чынам, Польшча прэтэндуе на ролю ўзору для славянскіх народаў Усходу і пэўнага кшталту цягніка для дэмакратычных сілаў Беларусі ды Украіны. Што ж мы пабачылі і пачулі ў Варшаве?

### Заробкі СМІ залежаць наўпрост ад іх аб'ектыўнасці

Гаворка, канешне, пойдзе пра польскія СМІ. Нам пашчасціла наведаць рэдакцыі трох галоўных польскіх газетаў: «Rzeczpospolita» (наклад 260 тысяч паасобнікаў), «Gazeta wyborcza» (наклад да 800 тысяч), «Polityka» (наклад - 340 тысяч). Гісторыя станаўлення і цяперашняй дзейнасці кожнай з газетаў па-свойму асаблівая і красамоўная.

Напрыклад, «Polityka» пасля рэфармавання пакінула быць дзяржаўнай, а стала кааператыўнай уласнасцю супрацоўнікаў. Паводле словаў яе рэдактара Ежы Бачыньскага, тады, у 1989 годзе, 47 чалавек засталіся з некалькімі сталамі. Цяпер газета мае сотні метраў арандаваных плошчаў і будуе ўласнае памяшканне на 6600 квадратных метраў. Кожны экзэмпляр штотыднёвай газеты налічвае болей за сотню старонак (з дадаткамі пра аўтамабілі, здароўе, камп'ютары і да д.п.). У рэдакцыі працуе каля 80 рэпарцёраў, у кожнага - службовы аўтамабіль, хатні кампю'тар, сотавы тэлефон. Падрыхтаваны да друку макет перадаецца праз электронную сувязь за 400 кіламетраў на звышсучасную друкарню, якая забяспечвае суперякасць каляровага друку. Пан Бачыньскі лічыць, што поспех выдання абумоўлены роўнай аддаленасцю газеты ад усіх палітычных плыняў.

Так гэта, ці не, але супрацоўнікам рэдакцыі іхняя прафесійная дзейнасць забяспечвае высокія заробкі і, у дадатак, бясплатную пазыку на набыццё кватэры. Рэкламадаўцы цэняць «Polityka» і плацяць ад 20 да 50 тысяч даляраў за рэкламную старонку. Спробы замовы палітычнай рэкламы галоўны рэдактар спыняе проста і эфектыўна: «кладзе» тэлефонную трубку.

Газета «Rzeczpospolita» некалі была органам польскага камуністычнага ўрада, а сёння яна належыць да нарвежскага канцэрна «Orkla» (з частковым удзелам адной польскай дзяржаўнай кампаніі). Раней газетай валодалі французы (купілі за 5 000 000 даляраў), але потым яны ўступілі яе нарвежцам за 48 000 000 даляраў. Нарвежскага інвестара цікавіць толькі прыбытак, ніякага ўздзеяння на рэдакцыю ён не аказвае, гэтаксама, як і польскі бок. Рэдактар можа быць зменены ў выпадку пагаршэння фінансавага становішча - падчас нашага наведвання якраз чакалі новага рэдактара і менавіта з гэтае прычыны.

«Газета выборча» - прадпрыемства акцыянернае. Акцыі размяркоўваюцца ў залежнасці ад унёску кожнага журналіста, а таксама ўлічваецца тое, што некаторыя журналісты працавалі яшчэ супраць камуністычнага рэжыму, таму ім дадаткова дадзены шэраг акцыяў. Акцыянеры, такім чынам, - людзі вельмі забяспечаныя. А вось рэдактар газеты, славуты Адам Міхнік, ад акцыяў адмовіўся. Рэдакцыя таксама будуе новае памяшканне і новую друкарню, пры гэтым цалкам разбурыла памяшканне старой друкарні, пабудаванай пяць гадоў таму. Макет будучага памяшкання стаіць у холе рэдакцыі - гэта нешта фантастычнае з празрыстымі столямі, кавярнямі, басейнамі і г.д.

Усе тры згаданыя газеты ўкладваюць вялізныя сродкі ў свае WEB старонкі. Настолькі велізарныя, што пра іх памеры нам не паведамілі, але далі зразумець, што сумы параўнальныя з інвестыцыямі ў электроннае забеспячэнне, транспарт і сувязь.

### Заангажаванасць СМІ не пераадоленая

Асобае становішча займае польскае тэлебачанне. Калі казаць пра прыватныя каналы, то ніхто не мае на іх ніякага ўплыву, апрача іх уладальніка і закона. А вось з грамадскім TV ёсць праблемы.

Перш за ўсё прэтэнзіі заяўляюцца на заангажаванасць польскага «першага канала». Зараз у Польшчы адбываюцца прэзідэнцкія выбары, і «TV-1» вылучаецца выразнай падтрымкай дзеючага прэзідэнта А.Квасьнеўскага. Гэта выклікае неверагоднае незадавальненне яго ных канкурэнтаў і непрыхільнікаў.

Справа ў тым, што польскае так званае «грамадскае тэлебачанне» ўсё яшчэ знаходзіцца пад кантролем палітыкаў, якія прадстаўляюць дзяржаўную ўладу. З гэтай нагоды шматлікія вядомыя спецыялісты ад мас-медыя заяўляюць, што ёсць толькі адно выйсце з гэтага заганнага становішча: перадаць усе тэлевізійныя каналы ў прыватныя рукі. Гэта забяспечыць іх большую фінансавую самастойнасць і прывядзе да большай аб'ектыўнасці ў асвятленні падзеяў.

### Інфармацыя - гэта тавар

На заканчэнне хацелася б прывесці факт, сведкам якога стала нашая група перад самым ад'ездам з Варшавы. Мы стаялі на прыпынку электрычкі ў мястэчку Падкова Лесна. Раптам на чыгуначным пераездзе ў дваццаці метрах ад нас спыніўся аўтамабіль - заглох рухавік. На няшчасце, да пераезду імчаў лакаматыў. На нашых вачах адбылося сутыкненне. Кіроўца і яго ная жонка загінулі.

Праз трыццаць хвілінаў на месцы аварыі быў рэпарцёр польскага грамадскага тэлебачання. Ён прыехаў на матацыкле - самым хуткім сродку перамяшчэння ў варшаўскіх заторах. Выявілася, што тэлебачанне плоціць 200 злотых (прыкладна 50 даляраў) таму, хто першы паведаміць пра падобныя здарэнні. Мы запыталіся ў нашай польскай калегі: «Ці дазволяць паліцыянты і пракурор здымаць?». На гэта пані Малгажата адказала: «А хто ў іх пытацца будзе?».

Змены ў Польшчы відавочныя. Павялічваецца колькасць кантрастаў паміж нашай і польскай рэчаіснасцямі. Але нам не прамінуць агульнага шляху, якім ідзе ўся еўрапейская посткамуністычная супольнасць. Тыя ж самыя праблемы, якія палякі вырашылі дзесяць гадоў таму, паўстануць перад намі ў вельмі хуткім часе. Спадзяюся, што нашыя візіты ў Варшаву прынясуць свой плён.

**Сяргей Сноп**

# Мясцовая прэса - вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца

**Чатыры дні, з 28 кастрычніка па 1 лістапада доўжыўся семінар «Незалежная мясцовая прэса - асноўны курс», арганізаваны Інстытутам Дэмакратыі ва Усходняй Еўропе.**

На гэты час у Гарадзенскім аб'яднанні «Ратуша» сабраліся выдаўцы невялікіх мясцовых выданняў, галоўным чынам бюлетэняў, што друкуюцца малым накладам, і рэгіянальных недзяржаўных газетаў з Гродна, Слоніма, Зэльвы, Ашмянаў, Смаргоні.

Семінарскія заняткі вялі трэнеры з Польшчы і Беларусі. Ігар Герменчук расказаў, пра што трэба пісаць у мясцовай прэсе. Польскі журналіст Марэк Грахольскі падзяліўся паспяховым досведам станаўлення газеты з «чорна-белага лістка».

**Алеся Макоўская**

# З'есці пуд солі для свайго IQ

**5 кастрычніка ў Гродне праходзіць міжабласны семінар па праблемах прафілактыкі ёдадэфіцыту ў насельніцтва. Недахоп ёду ў арганізме выклікае такія хваробы, як эндэмічны зоб, рак шчытападобнай залозы ды іншыя. Аднак галоўны ўрач Гарадзенскага эндакрыналагічнага дыспансера Людміла Коўшык гаворыць, што гэта - толькі вяршыня айсберга.**

### Чаму японцы такія разумныя?

Дэфіцыт ёду - традыцыйная з'ява для Беларусі. Дактары сцвярджаюць, што ў нашай глебе і вадзе гэтага мінералу надзвычай мала. Адсюль - недахоп ёду ў прадуктах харчавання. Найважнейшыя праблемы са здароўем, якія ўзнікаюць з гэтай прычыны, вельмі сур'ёзныя і пагражаюць здароўю цэлай нацыі. Гэта - невыношванне цяжарнасці, прыроджаныя парокі развіцця, упадак інтэлектуальнага развіцця і крэтынізм. Ёсць небяспека дэбілізацыі насельніцтва. Дарэчы, калі параўнаць зміяшчэнне ёду ў арганізме, напрыклад, расіянаў і японцаў, атрымоўваецца даволі красамоўная карціна. Норма ўжывання ёду - 150-200 мікраграмаў у суткі. У Японіі ўжываецца 1500-2000 мг, у Расеі - 75-100 (прыкладна столькі ж і ў нас). Так што факт залежнасці разумовых здольнасцяў ад харчавання выяўляецца даволі ярка. А яшчэ дэфіцыту ёду прыпісваюць такія «традыцыйна беларускія рэчы менталітэту», як рахманасць, флегматычнасць, пакорлівасць. Горш за ўсё з ёдам у тых мясцовасцях, дзе шмат тарфянікаў - на Берасцейшчыне, Віцебшчыне, Гомельшчыне. Гарадзенская вобласць прылічаная нашымі навукоўцамі да раёну сярэдняй і лёгкай цяжкасці.

### Чарнобыль вінаваты?

Дактары сцвярджаюць, што на зоб у нас хварэлі заўсёды. І катастрофа на ЧАЭС не дала росту гэтай хваробе. Аднак ракам шчытападобнай залозы сталі хварэць у дзесяткі разоў часцей. І перш за ўсё гэта тычыцца дзяцей і падлеткаў - тых, хто на красавік 1986 года меў ад 0 да 4 гадоў. Так, калі за 20 гадоў - з 1965 да 1985 года - сярод дзяцей было выяўлена толькі два выпадкі рака, то за наступныя 10 гадоў - ажно 36 выпадкаў. Рак спраўкаваны паступленнем радыеактыўнага ёду адразу пасля выбуху.

На сённяшні дзень трагічная дынаміка захоўваецца. Больш таго, адпаведна дадзеным эндакрыналагічнага дыспансера, за апошнія гады IQ (інтэлектуальны каэфіцыент) беларусаў зменшыўся на 10-15 працэнтаў. А паводле міжнародных прававых нормаў (Дэкларацыя правоў чалавека), дэфіцыт ёду парушае правы чалавека і дзіцяці, у прыватнасці, права на рэалізацыю творчых ды інтэлектуальных магчымасцяў. Ва ўсёй Еўропе праблема з ёдам ужо вырашана. І толькі ў Беларусі яна адкладзеная на XXI стагоддзе.

### А праблема вырашаецца лёгка

Улетку бягучага года на агульнанацыянальным узроўні была прынята рэзалюцыя аб шляхах вырашэння праблемаў ёдадэфіцыту. Вырашана не вынаходзіць веласіпед, а звярнуцца да выпрабаванага ў свеце сродка - ёдаванай солі. Са студзеня 2001 года ў гандлі будзе заменена «старая» ёдаваная соль на «новую». «Старая» змяшчала лятучыя злучэнні ёду, што рабіла такі сродак барацьбы з недахопам ёду амаль бессэнсоўным. Гаспадыні, каб задаволіць патрэбу ў ёдзе ўсёй сям'і, неабходна захоўваць тую соль у герметычным посудзе, саліць толькі гатовую ежу, у талерцы. «Новая» ж соль - са стойкім ёдатам прыдатная для гатавання на агні, кансервавання, засолкі.

Такім чынам, сутачная патрэба арганізма ў солі (6-10 грамаў) адначасова дае і неабходную норму ёду. Вось такі просты і танны сродак для здароўя. Шкада толькі, што яго «не вынайшлі» раней.

Акрамя гэтага, гарадзенскі хлебакамбінат засвоіў выраб хлебабулачных вырабаў з ламінарыяй - марской водарасцю з высокім змяшчэннем ёду. Агульнавядома, што морапрадукты - скарбонка гэтага мікраэлементу. Аднак мідзіі, амары і лангусты нам не па кішэні. У нейкай ступені дапамагчы ў барацьбе з ёдадэфіцытам здольныя і нашыя прадукты жоўта-чырвонага колеру - буракі, морква, валоскія (грэцкія) арэхі, грэчка, аўсянка, цытрусавыя.

А бацькам варта прыслухоўвацца да парадаў эндакрынолага - прафілактычныя агляды дзяцей у школах і садках праводзяцца кожны год. Відавочныя прыкметы парушэння функцыяў шчытападобнай залозы - гэта раптоўны набор вагі цела ці, наадварот, пахуданне, стамляльнасць, санлівасць, зніжэнне працаздольнасці. На гэтай стадыі хваробу можна лёгка вылечыць - урач выпіша «Антыструмін» ці вітаміны з мікраэлементамі. Варта больш пільна прыглядацца да свайго здароўя і станавіцца разумнейшымі.

**Алена Сіневіч**

# Энергетычны праект, карысны для ўсіх

**Расейская электраэнергія транзітам - праз Беларусь і Польшчу - пачала паступаць у Нямеччыну. У новым суперпраекце бяруць удзел Расейскае акцыянернае таварыства «Адзіная энергасістэма Расеі», канцэрн «Белэнерга», «Польскія сеткі энергетычныя» і нямецкая энергакампанія «Е.ОН.Energi».**

Цырымонія з нагоды пачатку паставак расейскай электраэнергіі на Захад адбылася на электрападстанцыі Рось Ваўкавыскага раёна. Адсюль па лініі Рось-Беласток на працягу болей як трыццаці гадоў энергетычны прадукт адпраўляўся ў Польшчу. Пасля распаду Савета Эканамічнай Узаемадапамогі гэтыя пастаўкі рэзка зменшыліся і складалі апошнім часам шасцьсот мільёнаў кВт/гадзін у год. Цяпер, у сувязі з новым міжнародным бізнес-праектам, - і падстанцыя, і лінія Рось-Беласток - яшчэ паслужаць справе. Мяркуецца, што ў Заходнюю Еўропу будзе пастаўляцца праз Беларусь да шасці тысяч мегават электраэнергіі ў гадзіну. Гэта выгадна ўсім: Расеі, якая заробіць валюту; Беларусі, якая бярэ грошы за транзіт; Польшчы, якая, апрача транзіту, будзе атрымліваць немалыя сумы за экспарт на Захад сваёй уласнай электраэнергіі.

Рэалізацыя новага суперпраекту - гэта відавочны поспех Расейскага акцыянернага таварыства «Адзіная энергасістэма Расеі». Яго кіраўнік Анатоль Чубайс з гэтай нагоды прыбыў на Гарадзеншчыну, каб разам з прэм'ер-міністрам Беларусі Уладзімірам Ярмошыным узяць удзел у афіцыйнай цырымоніі і правесці перамовы наконт далейшага супрацоўніцтва з беларускімі энергетыкамі.

**П.Разумовіч**



# У Амерыку - без пасярэднікаў! альбо Што такое Green Card

**Адпаведна артыкулу 203 (С) Закона ЗША аб іміграцыі 1990 года, штогод праводзіцца латарэя, па якой разыгрываецца 55000 візаў на сталае месца жыхарства ў ЗША сярод краінаў з нізкім узроўнем іміграцыі ў Злучаныя Штаты. The U.S. diversity immigration program, вядомая таксама як латарэя Green Card, кожны год праводзіцца Дзяржаўным Дэпартаментам ЗША. Пераможцы ў гэтай латарэі могуць атрымаць Green Card - іміграцыйную візу ЗША, якая дае права на сталае жыхарства ў ЗША. Уладальнікі Green Card пазней могуць стаць паўнапраўнымі грамадзянамі ЗША.**


Так выглядае мара эмігранта

## Прынцып дзеяння латарэі

◆ Заяўка для ўдзелу высылаецца ў патрэбны час у патрэбнае месца.

◆ У патрэбным месцы выпадковым чынам вызначаюцца пераможцы.

◆ Пераможцам высылаецца паведамленне пра выйгрыш і запрашэнне на субяседаванне ў бліжэйшае консульства ЗША.

◆ Тыя, хто праходзіць субяседаванне, атрымліваюць Green Card.

◆ Удзел у латарэі DV-2002 можа будзе прыняць з 2 кастрычніка 2000 года па 1 лістапада 2000 года. Падача заявы на ўдзел у латарэі Green Card з'яўляецца бясплатнай.

◆ Усе заяўкі атрымліваюць індывідуальны нумар. Выбар пераможцаў ажыццяўляецца камп'ютарам адвольна.

Дадатковую інфармацыю па латарэі можна атрымаць штодня (за выключэннем святочных і выхадных дзён) з 8.30 да 17.30 у аховы Амбасады ЗША у Беларусі (вул.Старавіленская, 46), альбо звярнуцца ў консульскі аддзел па тэлефоне (8-017) 231-50-00.

## Пяць правілаў для пачатку

1. Не дасылайце заяўку заказной, а толькі звычайнай поштай, бо ніякія іншыя віды спецыяльных паштовых адпраўленняў не прымаюцца да разгляду. Рэкамендуецца апускаць ліст не проста ў паштовую скрыню на вуліцы, а непасрэдна на міжнародным паштамце ці на галоўпаштамце.

2. Муж і жонка маюць двайны шанец удзелу ў латарэі, г.зн. яны ўключаюць адзін аднаго, а таксама дзяцей у свае анкеты.

3. Калі вы дашлеце болей, чым адну заяўку, то будзеце выключаныя з удзелу ў латарэі.

4. Дзеці ад 18 да 21 года (якія яшчэ не бралі шлюб) могуць папрасіць паслаць заяўкі ад кожнага з бацькоў, уключаючы ў заяўку дзіця, і тым самым павялічыць свой шанец.

Калі вы ці хто-небудзь з вашых знаёмых, жадаеце атрымаць права на сталае жыхарства ў ЗША, будзьце пільнымі ў дачыненні да рознага кшталту прайдзісветаў і махляроў, якія прапануюць за грошы свае паслугі ў запаўненні анкетаў і часцяком сцвярджаюць, што яны ў стане павялічыць вашы шанцы на выйгрыш.

**Удзел у латарэі БЯСПЛАТНЫ для ўсіх, спецыяльных анкетаў для запаўнення НЕ ІСНУЕ**

## Як праходзіць латарэя

Калі вы жадаеце ўдзельнічаць у латарэі 2002 года, вы павінны даслаць заяўку ў Нацыянальны цэнтр візаў у час 31-дзённага рэгістрацыйнага перыяду, які распачаўся 2 кастрычніка і закончыцца 1 лістапада 2000 года. Заяўка і канверт, у якім вы яе дашлеце, павінны дакладна адпавядаць патрабаванням, пададзеным у нашай інструкцыі. Пасля заканчэння рэгістрацыйнага перыяду электронным спосабам будзе адабрана каля 90 тысяч канвертаў. Уладальнікаў гэтых заявак паведамяць па пошце. Яны будуць мець магчымасць падаць заяву накont атрымання статусу сталага жыхара, г.зн. Green Card, у 2002 фінансавым годзе, які распачнецца 1 кастрычніка 2001 года. Толькі першыя 50 тысяч з 90 тысяч адабраных удзельнікаў, што падалі заявы і выканалі ўсе неабходныя патрабаванні, атрымаюць Green Card.

**ЗВЯРТАЕМ УВАГУ ТЫХ, ЧЫЕ ЗАЯЎКІ БУДУЦЬ ВЫБРАНЫЯ!**

Той факт, што канверт з вашай заяўкай быў выбраны, не з'яўляецца гарантыяй атрымання Green Card. Вам давядзецца наведаць Службу іміграцыі і натуралізацыі ці кабінет амерыканскага консула за мяжой і даказаць, што вы адпавядаеце ўсім неабходным для атрымання Green Card патрабаванням. Дэталі падаюцца ніжэй.

Памятайце, што вам непатрэбная ніякая дапамога (адвакат, агенцтва і г.д.) і спецыяльныя формы, якія яны прапаноўваюць для ўдзелу ў латарэі. Вы справіцеся самі.

# Асноўная інфармацыя і інструкцыі

**Для ўдзельнікаў латарэі, якія нарадзіліся на тэрыторыі былога Савецкага Саюза**

## Адкуль вы?

У латарэі візаў 2002 года могуць браць удзел толькі ўраджэнцы тых краінаў, што ўваходзяць у пададзены ў ангельскім тэксце спіс і падзеленыя на 6 геаграфічных рэгіёнаў: Афрыка, Азія, Еўропа, Паўночная Амерыка, Паўднёвая і Цэнтральная Амерыка з Карыбскімі астравамі. Ураджэнцы ўсіх былых рэспублікаў Савецкага Саюза прылічваюцца да рэгіёна Еўропа.

## Што такое «ўраджэнец»?

Тэрмін «ураджэнец» у большасці выпадкаў адзначае, што ўдзельнік латарэі нарадзіўся ў адной з пералічаных у ангельскім тэксце краінаў. Не важна, ці жыве ён/яна ў гэтай краіне і ці з'яўляецца яе грамадзянінам/грамадзянкай. У некаторых рэдкіх выпадках, прадугледжаных у Раздзеле 202 (b) Закона аб іміграцыі і грамадзянстве, удзельнік латарэі можа лічыцца ўраджэнцам краіны, адрознай ад краіны яго нараджэння. Напрыклад, ураджэнцам краіны нараджэння мужа/жонкі. Непаўнагелетнія дзеці могуць лічыцца ўраджэнцамі краіны нараджэння аднаго з бацькоў. Існуюць і іншыя надзвычайныя абставіны. У гэтых выпадках удзельнік латарэі павінен даць у заяўцы сціслае тлумачэнне прычынаў, з якіх лічыць сябе ўраджэнцам гэтай краіны, а таксама ў адваротным адрасе ў верхнім левым куце канверта з вашай заяўкай указаць назву гэтай краіны.

## Перыяд рэгістрацыі

Заяўкі, атрыманыя ў пачатку рэгістрацыйнага перыяду, не будуць мець перавагі ў параўнанні з атрыманымі напрыканцы рэгістрацыйнага перыяду. Аднак заяўкі, атрыманыя пасля 1 лістапада, будуць аўтаматычна дыскваліфікаваныя. Кожны ўдзельнік латарэі можа даслаць толькі адну заяўку, каб не быць аўтаматычна дыскваліфікаваным.

## Бацькі і дзеці

Вы можаце ўключыць у сваю заяўку мужа/жонку і дзяцей ва ўзросце да 21 года, якія не бралі шлюб. Калі Вы выйграеце візу, яны аўтаматычна атрымаюць такі ж самы іміграцыйны статус. Вы (ці Ваш муж) можаце даслаць заяўку ад сваёй асобы, уключыць у яе Вашыя дадзеныя і дадзеныя вашых дзяцей як членаў вашай сям'і. Такім чынам, муж і жонка маюць двайны шанец выйграць Green Card.

## Нічога лішняга

У кожным канверце можа знаходзіцца толькі адна заяўка - адзін аркуш паперы. Ніякіх іншых дакументаў, напрыклад, пасведчанняў аб нараджэнні, дыпломаў, атэстатаў ды іншага ў канверце быць не павінна.

## Ваша заяўка

Не існуе спецыяльнай «анкеты-заявы» для ўдзелу ў латарэі. Вы можаце выкарыстаць любы аркуш белай паперы. Надрукуйце альбо напішыце друкаванымі літарамі па-ангельску наступныя дадзеныя:

ПОЎНАЕ ІМЯ ЎДЗЕЛЬНІКА ЛАТАРЭІ: прозвішча, сярэдняе імя (калі ёсць). Прозвішча трэба падкрэсліць.

Напрыклад: Baltov, Ivan Petrovich (можна ўказаць імя па бацьку, але не абавязкова)

ДАТА НАРАДЖЭННЯ: дзень, месяц, год.

Напрыклад: 15 December 1954

МЕСЦА НАРАДЖЭННЯ: горад, вобласць, краіна.

Напрыклад: Novotroitsk, Orenburg Region, Russia

КРАІНА, УРАДЖЭНЦАМ ЯКОЙ ВЫ З'ЯЎЛЯЕЦЕСЯ, КАЛІ ЯНА АДРОЗНІВАЕЦЦА АД КРАІНЫ ВАШАГА НАРАДЖЭННЯ

Калі вы лічыце сябе ўраджэнцам не той краіны, у якой вы нарадзіліся, напішыце ў гэтай графе сціслае тлумачэнне. Калі вы ўказваеце ў гэтай графе якую-небудзь краіну, то павінны ўказаць яе і ў адваротным адрасе на канверце.

Калі вы замужам/жанаты і маеце дзяцей, падайце ІМЁНЫ, ДАТЫ і МЕСЦЫ НАРАДЖЭННЯЎ МУЖА/ЖОНКІ і ДЗЯЦЕЙ да 21 года, нежанатых/незамужніх.

ПАШТОВЫ АДРАС УДЗЕЛЬНІКА

Майце на ўвазе, што адрас на канверце павінен цалкам супадаць з паштовым адрасам удзельніка, указаным у заяўцы. Калі ваша заяўка выйграе, Нацыянальны візавы цэнтр дашле ўсю карэспандэнцыю па гэтаму адрасу. Можаце ўказаць свой тэлефон.

ЗАЎВАГА. Калі вы хочаце выкарыстаць у сваёй заяўцы адрас, па якім пражывае іншая асоба, абавязкова спачатку ўкажыце сваё імя (імя ўдзельніка латарэі), а на наступным радку скарачэнні «c/o» (care of) і імя чалавека, што пражывае па адрасе, які вы выкарыстоўваеце ў якасці паштовага.

Напрыклад: Ivan Baltov c/o Tatyana Sherman 143 West 8 Street. Apt.6 Brooklyn, NY 11204

Напрыканцы заяўкі ўдзельнік павінен пакінуць свой подпіс. Калі вы замужам/жанаты, распісвацца (як і вашым дзецям) не трэба.

Вы павінны прымацаваць да заяўкі свой каляровы або чорна-белы фотаздымак памерам 37x37 міліметраў, зроблены нядаўна. На адваротным баку фотаздымка напішыце сваё поўнае імя па-ангельску друкаванымі літарамі. Не карыстайцеся сашчэпкамі і скарасшывальнікам. Прымацуйце фотаздымак празрыстым скотчам так, каб можна было прачытаць ваша імя на адвароце. Фотаздымкі мужа/жонкі і дзяцей дасылаць не трэба.

## Канверт

Памер канверта: даўжыня павінна быць ад 15 да 25 сантыметраў, а шырыня ад 9 да 11 сантыметраў. Гэта неабходна для электроннай апрацоўкі заявак. Інфармацыя на канверце павінна быць надрукаваная ці напісаная друкаванымі літарамі па-ангельску.

Усе ўдзельнікі латарэі, што нарадзіліся ў краінах, якія ўваходзілі ў склад былога Савецкага Саюза, прылічваюцца да рэгіёна Еўропа і павінны накіраваць сваю заяўку на адрас:

DV-2002 Program
Kentucky Consular Center
Lexington, KY 41903
U.S.A.

Адваротны адрас удзельніка латарэі пішацца ў верхнім левым куце канверта.

Узор правільна афармленага канверта для ўраджэнца Беларусі падаецца ніжэй.

## Адукацыя і стаж працы

Адпаведна закону, атрымаць Green Card у выніку выйгрышу ў латарэю, могуць толькі асобы, адукацыя якіх не ніжэй за сярэднюю, альбо тыя, хто мае двухгадовы досвед працы на працягу апошніх пяці гадоў па спецыяльнасці, што патрабуе двухгадовага курсу навучання ці двухгадовага стажу.

Сярэдняй адукацыяй альбо яе эквівалентам лічыцца паспяховае заканчэнне 12-гадовага курсу навучання ў пачатковай і сярэдняй школе, якое адпавядае атэстату аб заканчэнні сярэдняй школы (high school degree) у ЗША. Патрабуемы стаж працы вызначаецца ў адпаведнасці з апошнім выданнем даведніка (Dictionary of Occupational Titles) Міністэрства працы ЗША.

Увага! Не дасылайце дакументы, што пацвярджаюць вашу адукацыю, разам са сваёй заяўкай. Калі ваша заяўка будзе выбраная, Нацыянальны цэнтр візаў дашле вам падрабязныя інструкцыі накont таго, што варта рабіць далей.

## Заяўкі ад дзяцей

Дзеці да 21 года, якія не бралі шлюб, могуць быць уключаныя ў заяўкі бацькоў. Акрамя таго, некаторыя з іх могуць падаць і сваю ўласную заяўку, асобна ад бацькоў, калі іх адукацыя ці стаж працы адпавядае ўмовам. Неабходна мець на ўвазе, што калі дзіця выйграе ў латарэю і атрымае Green Card, ніводны з бацькоў не зможа атрымаць візу як член яго сям'і. Дзіця павінна быць падрыхтаванае пераехаць у ЗША і жыць там самастойна.

**ВАША ЗАЯЎКА ПАВІННА БЫЦЬ АТРЫМАНА Ў ПЕРЫЯД З 2 КАСТРЫЧНІКА 2000 ГОДА ДА 12 ГАДЗІН ДНЯ 1 ЛІСТАПАДА 2000 ГОДА.**

APPLICANT'S NAME: Ivanov Alexander
DATE OF BIRTH: 29 July 1971
PLACE OF BIRTH: Minsk, Belarus
NAME, DATE AND PLACE OF BIRTH OF APPLICANT'S SPOUSE AND CHILDREN:

| | |
|---|---|
| Ivanova Lubov<br>16 December 1970<br>Minsk, Belarus | Ivanova Anna<br>16 December 1997<br>Minsk, Belarus |

APPLICANT'S MAILING ADDRESS:
Ivanov Alexander
534 Kommunisticheski tupik.
Minsk, Belarus 122222

Подпіс

Фота

*Узор правільна афармленай заяўкі*

Belarus
Andrei Ivanov
Kommunisticheski tupik 1.
Belarus, Minsk 191711

stamp

DV-2002 Program
Kentucky Consular Center
Lexington, KY 41903
U.S.A.

*Узор правільна афармленага канверта*





ПЯРЭСТЫ КУТ

# Залатыя беларусачкі!

**Тры залатыя, тры срэбраныя і адзінаццаць бронзавых медалёў - такі вынік выступу беларускіх спартоўцаў на Алімпіядзе ў Сіднэі. Па колькасці ўзнагародаў наша каманда заняла 15-е месца сярод 200 удзельнікаў.**

Апошні тыдзень спаборніцтваў падараваў беларусам шмат прыемных хвілінаў. Для пачатку золата і бронзу ў турніры дыскаболак выйгралі адпаведна Эліна Зверава ды Ірына Ятчанка. Затым спраўдзіла нашыя таемныя надзеі выхаванка гарадзенскай школы лёгкай атлетыкі Яніна Карольчык, якая не пакінула аніякіх шанцаў сваім куды больш тытулаваным суперніцам.

Такім чынам, усё «золата» беларусам прынеслі... беларусачкі. Кацярына Карстэн, Эліна Зверава, Яніна Карольчык - вось яна, залатая слава Беларусі.

Ды і два з трох «срэбраў» - таксама жаночых рук справа. Толькі па дадатковых паказчыках здолелі апярэдзіць нашых мастацкіх гімнастак расіянкі. Другое месца ў асабістым заліку на рахунку Юліі Раскінай. І толькі Ігар Басінскі здолеў дадаць каларыту ў беларускі срэбны п'едэстал гонару.

Апошнія дні Алімпіяды прынеслі беларусам і чарговую «бронзу». Гэта Павал Доўгаль у турніры пяціборцаў нечакана для ўсіх здолеў у моцнай кампаніі фінішаваць трэцім.

Мела шанцы на ўзнагароды і жаночая байдарка-чацвёрка, у складзе якой веславалі дзве гарадзенкі - Алена Бець і Святлана Вакула. У папярэднім заплыве беларускі паказалі вельмі някепскі час. Паўтары яго ў фінале - і медалі ў кішэнях, але нашыя дзяўчаткі фінішуюць толькі шостымі.

Такі ж вынік у кіданні молату ў гарадзенкі Людмілы Губкінай. Пяты радок ў турнірнай табліцы барцоў грэка-рымскага стылю заняў гарадзенец Валерый Цыленць. Дарэчы, выступ нашых грэка-рымлянаў быў надзвычай жорстка ацэнены на старонках «Прессбола» міністрам спорту Яўгенам Ворсіным, які паабяцаў разабрацца са славутым гарадзенскім трэнэрам, настаўнікам нацыянальнай каманды Вячаславам Максімовічам...

Да вынікаў Алімпіяды ў Аўстраліі мы будзем яшчэ вяртацца. Пакуль жа канстатуем наступнае: беларусы выступілі ў Сіднэі вельмі дастойна, нягледзячы на тое, што ўмовы для падрыхтоўкі да турніру ў іх былі далёка не самыя ідэальныя. Гэтым разам на фоне прадстаўнікоў іншых рэгіёнаў краіны не так удала выступілі гарадзенцы. У свой актыў яны могуць занесці толькі бронзу Ігара Астапковіча. Разам з тым, цэлы шэраг гарадзенцаў спыніўся на подступах да п'едэсталу, што не можа не абнадзейваць.

На першай Алімпіядзе XXI стагоддзя ў Афінах беларусам давядзецца выступаць па сутнасці новай камандай - многія героі Сіднэя скончаць да таго часу сваю кар'еру. На іх месца давядзецца стаць тым, хто сёння толькі робіць першыя крокі ў вялікім спорце. Не загубіць бы будучых зорачак у гэтым ліхалецці...

**Вітаўт Руднік**

**Па гарызанталі:** 7.Летні сорт ігрушы. 8.Хто апісаў «Плач перапёлкі»? 10.Спартовы снарад для малпы. 11.Водаправодны клапан. 12.Жончын брат. 14.Помесь. 16.Дэкаратыўная пакаёвая расліна. 17.Буйназярністы жоўты пясок. 19.Дрэва з белым налівам. 20.Ад якой хваробы памёр Адам Міцкевіч. 24.Колькасць сабранага сена. 25.Што такое татамі? 26.Трус (імя). 30.Бабовая расліна. 31.Музычны інструмент. 32.Славуты ў свой час беларускі ансамбль. 33.Возера і рака на Віцебшчыне. 34.Частка печы.

**Па вертыкалі:** 1.Першы спікер беларускага парламента. 2.Раённы цэнтр на Віцебшчыне. 3.Трафей індзейскага воіна. 4.Лінія. 5.Незвычайнае здарэнне. 6.Беларускі пісьменнік. 9.У якім горадзе замак Радзівілаў? 13. «Белая смерць». 15.Загадка з малюнкамі. 17. «У вырай сабраліся гусі. І...азваўся пад небам...» (Я.Купала). 18.Надзьмуты гаспадар птушынага двара. 21.Паўднёвы сусед беларуса. 22.Чорная вопратка як сімвал смутку. 23.Языка не мае, а праўду скажа. 27.Сувязісты пры гужавым транспарце. 28.Слабы чалавек. 29.Праверaны сродак ад нерашучасці. 32.Яна ёсць на кухні ў кожнай гаспадыні.



**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N36**

**Па гарызанталі:** 7. «Несцерка». 8.Забабоны. 10.Пліса. 11.Бамбіза. 12.Вітаўт. 14.Чарныш. 16.Інтым. 17.Ачко. 19.Ямайка. 20. «Нагбом». 24.Сказ. 25.Хамяк. 26.Апанас. 30.Патоля. 31.Хмызняк. 32.Кніга. 33.Уражанне. 34.Вадкасць.

**Па вертыкалі:** 1.Цемрашал. 2.Вясніцы. 3.Экіпаж. 4.Вада. 5.Хаднік. 6.Янкоўскі. 9.Кішэнь. 13.Рымар. 15.Намаз. 17.Абора. 18.Экран. 21.Акраверш. 22.Цягнік. 23.Чамярыца. 27. «Прымакі». 28.Уладар. 29.Ахапак. 32.Каня.

## COCKTAIL-PARTY з лагодным дэндзі

**Як і чакалася, рубрыка COKTAIL-PARTY знайшла свайго чытача. Першымі, вядома, адгукнуліся зацікаўленыя асобы - артысты. Так, актор лялечнага тэатра Юрый Буракоў, запыніўшы мяне на вуліцы, выказаў вялікую падзяку. Маўляў, нарэшце з'явіўся праўдзівы матэрыял пра тэатральнае жыццё. Яму надакучыла чытаць саладжавую алілуйшчыну, якой частуюць «прадажныя» журналісты. На думку артыста, усе зацемкі пра адкрыццё тэатральнага сезону, што выйшлі ў гарадзенскіх газетах, напісаныя адной рукой, быццам нехта купіў журналістаў і «поимел» усіх адразу. Спадабалася рубрыка і саркастычнаму Віктару Шалкевічу, які не прамінуў прачытаць калегам мой опус услых. Я ніколі не быў прыхільнікам алілуйшчыны і рэзаў праўду-матку налева і направа (за што на мяне часта крыўдавалі). Але варта памятаць, што для сябра найлепшыя лекі - горкая праўда, а найлепшая атрута - салодкая хлусня. Таму запрашаю на чарговы COKTAIL-PARTY, каб зноўку зазірнуць за тэатральныя кулісы.**

### Паміж сцылай эстэтыкі і харыбдай прагматыкі

Адна з галоўных праблемаў тэатраў - абнаўленне рэпертуару. Дзеля гэтага патрэбныя свежыя спектаклі і немалыя грошы. Спачатку неабходна знайсці сродкі на новую пастаноўку, каб забяспечыць матэрыяльную частку: выраб лялек, дэкарацыяў, пашыўку касцюмаў і г.д. Ну, вядома, трэба заплаціць запрошанаму рэжысёру, мастаку, кампазітару... Свае штатныя будуць працаваць і за мізэрны заробак... Але часта бывае, што і па мінімуму не хапае сродкаў. Адзіная надзея - датацыя і міністэрская дзяржзамова, якую трэба вымольваць, як немаведама што. Зрэшты, грошы з дзяржзамовы перападаюць не ўсім, а толькі вузкаму колу «давераных» асобаў, таму кіраўніцтва тэатра сумы ганарараў стараецца схаваць за сямю пячаткамі, каб не выклікаць пралетарскага гневу астатніх - «недавераных» (а такіх большасць) супрацоўнікаў, якія і будуць цягнуць гэты гуж шмат гадоў.

Недзе паўтара года таму ў Гародню прыязджаў былы актор нашага тэатра лялек Іван Цімохін (зараз ён жыве і працуе ў Расеі), каб з колішнімі калегамі рэалізаваць сваю ідэю - паставіць спектакль паводле п'есы расейскага пісьменніка-эмігранта Я.Замяціна «Блыха». У тэатры гэтай ідэяй захапіліся і пачалі рабіць пэўныя захады. Патэнцыйны пастаноўшчык казаў, што ў яго ёсць нават свой мастак і ўвогуле, усё падрыхтавана. На аплату толькі трэба нейкіх 300 «баксаў», маўляў, па расейскіх мерках - гэта існая драбніца. Аднак упраўленне культуры паставіла крыж на шляхетнай ідэі: «Як гэта мы будзем аднаму чалавеку плаціць такія грошы!?» Ну, пэўна, для людзей, свядомасць якіх можна ацаніць не болей як на 25-30 даляраў, трыста - гэта астранамічная сума! Прывяду прыклад (на мове арыгіналу) з інтэрв'ю кампазітара Эдуарда Ханка газеце «Свободные новости» (21-28.07.2000): «Когда снимали фильм «Момент истины», мне попался лист с гонорарами наших и российских участников. Я видел собственными глазами подписанный министром документ. Наивысший гонорар наших - $300 (по курсу Нацбанка), для россиян практически за ту же работу высшая планка $30000!» Ну добра, каб у дзесяць, але ж не ў сто разоў! Гэта ж якім мярзотным здраднікам трэба быць, каб даць чужынцам больш, чым сваім! Як кажуць, без каментароў...

Калі не даюць грошай на новыя пастаноўкі, дык як жа выканаць вялізны план наведвання гледачамі тэатра? Большасць спектакляў «пракруцілі» па тых самых інстанцыях па некалькі разоў. А глядач увесь час патрабуе свежага мяса! Калі не дасі свежаніны, дык у яго знікне апетыт. Выйсце адно - узнаўляць крыху падзабытыя старыя спектаклі, выцягнуць са складу пашарпаныя дэкарацыі ды спарахнелыя лялькі, крыху падмазаць-падлатаць, падрэпетыраваць - і ўперад, на барыкады!

Такім чынам нівелюецца дыспрапорцыя паміж эстэтыкай і прагматыкай. Здаецца, і воўкі сытыя, і авечкі цэлыя. І грошы можна зарабляць. Толькі не артыстам і не тэхперсаналу. Грошы ад сабранай касы са спектакляў не ідуць у акторскі заробак! Памятаю, як падчас леташніх гастроляў па вобласці настаўніца з правінцыйнай школкі ўзрушана прамовіла: «Вы, пэўна, добра зарабляеце. Гэта ж за пару спектакляў згарнулі столькі грошай!» Давялося ёй растлумачыць, што тэатр як установа культуры па ўзроўню зарплаты знаходзіцца ў тым самым глыбокім заднім месцы, дзе і яе школка як установа адукацыі. А яна, убачыўшы жмуты купюраў у руках адміністраткі, здаецца, так мне і не паверыла... Выяўляецца, як я даведаўся пасля ў бухгалтарыі, уся сабраная каса ідзе на гаспадарчыя ды іншыя патрэбы. Што гэта за іншыя патрэбы і ў каго яны найбольшыя, я не ўдакладняў...

**Юры Гумянюк**

**(Працяг будзе)**

ПАМЯТКА ДЛЯ ЖАНЧЫН

# Чым карміць каханага

**Ежа аказвае ўплыў на псіхіку чалавека, яго эмацыйны настрой, здымае стому, павышае працаздольнасць. А пэўны набор прадуктаў здольны паляпшаць палавую патэнцыю мужчынаў.**

**Працяг. Пачатак у №36**

13. Напоі, што стымулююць цэнтральную нервовую сістэму і садзейнічаюць падвышэнню мужчынскай патэнцыі - **свежазавараны чай, кава**, альбо прыгатаваны паводле старажытнага рэцэпту **напой**: вымыты і дробна пасечаны сельдэрэй адварыць, пакласці на патэльню, дадаць крыху масла, мукі і шклянку моцнага булёну; калі сельдэрэй згатуецца, дадаць жаўток і мускатны арэх. Напой гэты падаваць мужчыну гарачым.

14. Усходняя мудрасць раіць для павелічэння палавой здольнасці ўжываць **сумесь лаванды, граната і карыцы**, а таксама **сырадой** («парное молоко») з **валоскімі (грэцкімі) арэхамі, смятану, мяса, яйкі, укроп і пятрушку, часнок, спаржу, мёд, моркву, вітаміны А і Е.**

15. Тым, каму не шанцуе ў каханні, амерыканцы рэкамендуюць есці **шакалад**.

16. Японцы раяць не налягаць на цукар, бо ў празмернай колькасці ён пазбаўляе змогі для рэалізацыі буйных сексуальных фантазіяў, што ўзнікаюць у ласых да прысмакаў мужчынаў.

17. На вячэру для расслаблення - **крыху алкаголю** (лепей каньяку) мужчыне і **кактэйль** сабе: на дно бакала пакладзіце кавалачак цукру, аўпаленага да карычневага колеру, трошкі ільду, 1-2 вішні, галінку мяты, заліце ахаладжаным шампанскім, а на край бакала - кружочак апельсіна. Тым, хто ўсё ж крыху перабраў са спіртным, дапамогуць кубачак моцнай кавы з лімонам і садавіна.

*Ну, а яшчэ трэба памятаць, што перагружаны страўнік - толькі шкода подзвігам у каханні. Галоўнае - не пераядаць. Якое там каханне на сыты страўнік (паспаць бы...)? Умеркавасць у ежы, моцнае здароўе, маладосць душы і цела, адсутнасць комплексаў - вось залог поспеху ўзорнага кахання!*



# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Для Вас гэты тыдзень будзе, на зайздрасць, спрыяльным ва ўсіх адносінах.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Нават калі не ўсё складваецца так, як бы Вам хацелася, захоўвайце аптымізм.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Чацвер і пятніца - выдатныя дні для таго, каб адпачыць ад руціны і развеяцца.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Майце на ўвазе, што некаторыя з Вашых дарадчыкаў імкнуцца дасягнуць мэтаў, якія ідуць уразрэз з Вашымі.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Чакайце добрых звестак напрыканцы тыдня. Завітайце да сяброў.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Каб пазбегнуць стрэсавых сітуацыяў у прафесійнай сферы, запасіцеся цярпеннем.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Поспех у асабістым жыцці на гэтым тыдні Вам гарантаваны. Дзейнічайце!

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Паспрабуйце пазбегнуць высвятлення адносінаў з асобамі процілеглага полу.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** На працы мае сэнс не расслабляцца - Ваш плён будзе ўзнагароджаны.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Гэты тыдзень будзе не з лёгкіх. Не спасуйце перад цяжкасцямі!

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** У сувязі са зменамі ў адносінах са сваякамі Вам належыць правесці пераацэнку каштоўнасцяў.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Шанцы дасягнуць поспеху ў фінансавай сферы дасягнуць апагею напрыканцы тыдня.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:** 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня». Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3105 Наклад 7 150
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 4.10.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк**, камп'ютарная вёрстка: **Аляксей Салей**